№ 4 (24) 2014.04

Веснік ПРАВААБАРОНЧЫ

БАРАНАВІЦКІ ПРАВААБАРОНЧЫ ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ

**АЛЕСЬ БЯЛЯЦКІ І ЯГО ДУМКІ ПРА ГЭТА І ПРА ТОЕ**



І ЯКІМ ЧЫНАМ ГЭТА БУДЗЕ ЎПЛЫВАЦЬ НА НАС

СТАР. 2

**РЫГОРА ГРЫКА, ЭКС-КАНДЫДАТА Ў ДЭПУТАТЫ**

ЗВОЛЬНІЛІ З ПРАЦЫ З-ЗА ЦІСКУ НА АДМІНІСТРАЦЫЮ



СТАР. 3

ПАЛІТВЯЗНІ

# LIBERECO ПРАПАНУЕ ДА ПАДПІСАННЯ ПЕТЫЦЫЮ ЗА АМНІСТЫЮ ДЛЯ ПАЛІТВЯЗНЯЎ БЕЛАРУСІ

Напярэдадні чэмпіяната свету па хакеі нямецка-швейцарская праваабарончая арганізацыя Libereco - Partnership for Human Rights заклікае прэзідэнта Лукашэнку вызваліць усіх палітвязняў, каб праводзіць ЧС без парушэнняў правоў чалавека.




Петыцыя за спецыяльную амністыю для палітвязняў Беларусі змешчаная на сайце change.org.

"З 9 па 25 траўня 2014 года ў Беларусі пройдзе Чэмпіянат Свету па хакеі. 9 траўня, у дзень адкрыцця чэмпіянату, спаўняецца 69 год з дня заканчэння Другой Сусветнай вайны.

З нагоды адкрыцця Чэмпіянату свету 9 траўня, калі таксама адзначаецца Дзень Перамогі, мы просім Вас абвесціць спецыяльную амністыю, паводле якой Ігар Аліневіч, Алесь Бяляцкі, Мікалай Дзядок, Андрэй Гайдукоў, - Эдуард Лобаў,Васіль Парфянкоў, Арцём Пракапенка, Мікалай Статкевіч і Яўген Васьковічбудуць вызваленыя з турмы.

Паводле беларускіх і міжнародных праваабарончымі арганізацыямі, людзі, згаданыя вышэй, з'яўляюцца палітвязнямі, і іх зняволенне – гэта сур'ёзнае парушэнне правоў чалавека. Беларусь падпісала Міжнародны Пакт аб грамадзянскіх і палітычных правах, згодна з якім абавязаная гарантаваць гэтыя правы", - даводзяць да Лукашэнкі праваабаронцы Libereco.

На сайце арганізацыі змешчаны адпаведныя банэры, якія можна выкарыстоўваць для пашырэння інфармацыі пра петыцыю.

spring96.org

# ЦІ МОГУЦЬ ПАЛІТВЯЗНІ РАЗЛІЧВАЦЬ НА ВЫЗВАЛЕННЕ ПА АМНІСТЫІ?

У панядзелак 21 красавіка стала вядома, што ў парламент унесены законапраект аб амністыі на 2014 год. Нацыянальны прававы інтэрнэт-партал пакуль не апублікаваў дакумент.

Але з паведамленняў прэс-службы Лукашэнкі вядома, што амністыя не будзе распаўсюджвацца на асобаў, якія здзейснілі цяжкія і асабліва цяжкія злачынствы, а таксама не выканалі прадугледжаныя праектам закона ўмовы для вызвалення ад крымінальнай адказнасці і пакарання.

Праваабаронца Валянцін Стэфановіч кажа, што папярэднія законы «Аб амністыі» пад гэтым разумелі парушэнне рэжыму выпраўленчай установы, а таксама некампенсаваную пазыку перад дзяржавай.

Ці могуць палітвязні разлічваць на вызваленне па амністыі?

Намеснік старшыні ПЦ «Вясна» кажа, што большасць з іх асуджана за цяжкія злачынствы, таму і Эдуард Лобаў, і анархісты наўрад ці могуць быць вызваленыя па амністыі сёлета. - Андрэй Гайдукоў па тэрміне выходзіць на волю 8 мая.



Тэарэтычна пад амністыю трапляе толькі - Васіль Парфянкоў, які пакуль не атрымаў статус злоснага парушальніка рэжыма. А вось Алесь Бяляцкі такі статус мае, таму і ў 2012 на яго не распаўсюджвалася амністыя.

«З іншага боку, спагнанні вязням выносіць адміністрацыя калоніі. Яна ж можа ў любы момант іх скасаваць. Таму калі будзе палітычная воля кіраўніцтва краіны на вызваленне Бяляцкага, ён падпадзе пад амністыю», - заўважыў праваабаронца.

spring96.org

## Баранавіцкі гарвыканкам не спяшаецца выконваць рашэнне суда



Вось ужо некалькі дзён прафсаюзны актывіст Рыгор Грык, які выйграў суд у Баранавіцкага гарвыканкама 5 сакавіка, спрабуе вярнуць дзяржпошліну за падачу заявы ў гарадскі суд. Суддзя Вольга Апановіч прызнала рашэнне намесніка старшыні Баранавіцкага гарвыканкама Дз. Касцюкевіча ад 15.01.2014г. аб адмове Рыгору Грыку ў правядзенні пікета ў заяўленым месцы незаконным і абавязала гарвыканкам выплаціць заяўніку дзяржаўную пошліну ў памеры 130 тыс. рублёў.

Яшчэ 26 сакавіка грамадскі актывіст атрымаў у гарадскім судзе дакумент за подпісам судовага выканаўца Н.В. Монцік, у якім паведамляецца, што Баранавіцкі гарвыканкам абавязаны выплаць Рыгору Грыку 130 тыс. рублёў да 2 красавіка 2014 года.

Візіты Грыка ў гарвыканкам не далі плёну. Сёння ўжо 18 красавіка, і гарадскія ўлады пакуль не спяшаюцца вяртаць грошы грамадскаму актывісту і выканаць рашэнне суда.

Глеб Лушынскі

## Грамадскія актывісты з Баранавічаў павіншавалі палітвязняў з светлым днём Уваскрасеньня Хрыстовага



Баранавіцкія актывісты 15 красавіка адправілі каляровыя віншавальныя паштоўкі з Вялікаднем палітвязням Мікалаю Статкевічу, Алесю Бяляцкаму, Эдуарду Лобаву, Мікалаю Дзядку, Ігару Аліневічу, Яўгену Васьковічу, Арцёму Пракапенку, Андрэю Гайдукову і Васілю Парфянкову.

У сваіх паштоўках праваабаронцы, актывісты Руху "За свабоду", Аб'яднанай грамадзянскай партыі, кампаніі "Гавары праўду" пажадалі палітвязням моцнага здароўя, аптымізму, шчасця, веры ў лепшую будучыню і надзеі, што "халоднае крыло радзімы" заўсёды саступіць цяплу сяброўскіх сэрцаў.

– Мы рэгулярна дасылаем і атрымліваем лісты і паштоўкі ад Мікалая Статкевіча, Алеся Бяляцкага, Мікалая Дзядка і іншых. У сваіх пасланнях мы распавядаем пра грамадска-палітычнае жыццё ў Баранавічах і заўсёды выказваем спадзяванне, што з Божай ласкай беларускія палітвязні вытрымаюць усе жыццёвыя выпрабаванні і мужна пераадоляць турэмныя цяжкасці, – адзначыла Анжаліка Камбалава.

Віктар Сырыца

СВЕТАПОГЛЯД

## Алесь Бяляцкі: "...выходзяць пытанні ведання гісторыі і мовы ў народзе, людзьмі – на першы план"

Бялыніцкі журналіст Барыс Вырвіч 16 красавіка атрымаў ліст ад палітвязня, кіраўніка Праваабарончага цэнтра "Вясна" Алеся Бяляцкага, у якім Алесь распавёў пра тое, што яго зараз найбольш хвалюе.




Свой ліст Алесь Бяляцкі напісаў і адаслаў з папраўчай калоніі №2 у Бабруйску 13 красавіка.

У прыватнасці, палітвязень піша: "За гэты час невялікі багата што на поўдні ад нас і на ўсходзе змянілася, і гэта яшчэ не мяжа. Так што ўсе мае думкі пра гэта і пра тое, якім чынам гэта будзе ўплываць на нас. Вось і выходзяць пытанні ведання гісторыі і мовы ў народзе, людзьмі – на першы план, а асьветніцкая праца моцна карэктуе і ўплывае на светапогляд. Тое, што, урэшце, заўсёды было, але зараз стала практычна зразумелым".

Таксама ў лісце палітвязень распавядае пра сваё жыццё ў папраўчай калоніі ў Бабруйску, піша, што "птушкі ўжо прыляцелі, як з поўдню, так і з усходу" і віншуе бялынічан з Вялікаднем.

Па словах Барыса Вырвіча, якраз сёння грамадскія актывісты Бялыніцкага раёна даслалі ўсім беларускім палітвязням віншавальныя паштоўкі з Вялікоднымі святамі, у якіх выказалі ім сваю падтрымку і найлепшыя пажаданні.

spring96.org

ФЕМІДА

## Сапелка: "Дасудовае пагадненне – прагрэсіўная норма, якая спрацуе толькі пры незалежным судзе»

У Беларусі можа быць створаны механізм дасудовага пагаднення аб супрацоўніцтве з падазраваным (абвінавачаным) па крымінальнай справе. З такой ініцыятывай выступае Следчы камітэт.

У інтэрв'ю "Савецкай Беларусіі" старшыня СК Валянцін Шаеў патлумачыў, што па такім пагадненні падазраваны будзе распавядаць пра злачынствы іншых асоб, альбо пра злачынствы, пра якія невядома нікому.

"Гэта не будзе нейкая дамоўленасць паміж пацярпелым і злачынцам. Гэта будзе пагадненне паміж пракурорам і злачынцам, якія пагадзіліся супрацоўнічаць са следствам, - адзначыў Шаеў. - Сутнасць пагаднення ў тым, што пры выкананні такіх абавязацельстваў яму гарантуецца зніжэнне максімальна магчымага тэрміну пакарання".

Старшыня Следчага камітэта пераконвае, што гэта не будзе механізмам "откупа" ад адказнасці.

Зараз, такі механізм замацаваны заканадаўча – абвінавачаны можа кампенсаваць урон, нанесены юрыдычнай асобе дзяржаўнай формы ўласнасці, і звярнуцца да прэзідэнта з просьбай пазбавіць ад крымінальнай адказнасці. Апроч таго, на сёння падазраваным і абвінавачаным і так прапануюць супрацоўніцтва са следствам, што расцэньваецца як змякчаючыя віну абставіны.

"Але гэтае абяцанне не заўсёды выконваецца, - кажа юрыст Павел Сапелка. – Прычына ў тым, што следства і пракуратура не могуць загадзя гарантаваць, якім будзе рашэнне суда".

Апошнія справы супраць Аляксандра Грунова і Эдуарда Лыкава (па абодвух прысуд – расстрэл) паказваюць, што супрацоўніцтва са следствам не было ўлічана ў якасці абставінаў, змякчаючых віну.

"Увядзенне механізму дасудовага пагаднення – прагрэсіўная норма, - кажа Сапелка. – Аднак пакуль невядома, як яна будзе рэалізавана на практыцы. Выклікае пытанне, як праверыць, ці ўсё па справе сказаў падазраваны, каб атрымаць паводле пагаднення меньшы тэрмін пакарання? Або як гарантаваць, ці не агаварыў ён невінаватых людзей, каб самому атрымаць больш мяккае пакаранне? Да таго ж, ва ўмовах адсутнасці незалежных судоў любая прагрэсіўная норма можа проста не спрацаваць".

spring96.org

ВЫБАРЫ

# У БАРАНАВІЧАХ ЭКС-КАНДЫДАТА Ў ДЭПУТАТЫ МЯСЦОВАГА САВЕТА РЫГОРА ГРЫКА ЗВОЛЬНІЛІ З ПРАЦЫ



Экс-кандыдата ў дэпутаты Рыгора Грыка 15 красавіка звольнілі з ТАА "Сучасныя матэрыялы будаўнічыя", дзе ён працаваў у якасці слесара-штампоўшчыка з лютага 2013 года.

У загадзе аб звальненні за подпісам дырэктара прадпрыемства Галіны Буліга ўказваецца, што Рыгор Грык звольнены па ўзгадненні бакоў.

Сам грамадскі актывіст лічыць, што пасля выбараў у мясцовыя саветы гарвыканкам ўзмацніў ціск на адміністрацыю прадпрыемства з мэтаю яго звальнення. Рыгор Грык быў кандыдатам ў дэпутаты Баранавіцкага гарсавета (выбарчая акруга № 15) і Брэсцкага абласнога Савета дэпутатаў (выбарчая акруга № 17).

– У 2008 годзе я балатаваўся ў Палату прадстаўнікоў і мяне звольнілі з Баранавіцкага баваўнянага камбінату.

У 2010 годзе я катэгарычна адмовіўся зняць сваю кандыдатуру падчас выбараў у мясцовыя саветы, і мяне таксама пазбавілі працы ў вагонным дэпо, дзе я працаваў слесарам па рамонту чыгуначнага транспарту. Цяпер мне стварылі такія ўмовы працы, што я проста вымушаны быў напісаць заяву аб звальненні, – паведаміў Рыгор Грык.

Вітусь Свабодскі

# БРЭСЦКІ АБЛАСНЫ СУД РАЗГЛЕДЗІЦЬ СКАРГУ ЭКС-КАНДЫДАТА Ў ДЭПУТАТЫ МІКАЛАЯ ЧАРНАВУСА

Экс-кандыдат ў дэпутаты Мікалай Чарнавус 23 красавіка атрымаў з суда Баранавіцкага раёна і г. Баранавічы паведамленне за подпісам намесніка старшыні суда Святланы Снежка і суддзі Жанны Капачэўскай аб тым, што матэрыялы па яго прыватнай скарзе накіроўваюцца ў Брэсцкі абласны суд. У гэтым жа лісце паведамлецца, што пасяджэнне Брэскага абласнога суда адбудзецца 5 мая аб 11-ай гадзіне па адрасе: г. Брэст, вул. Савецкіх пamежнікаў, 41.

– Я звярнуўся са скаргай ў гарадскі суд на незаконныя дзеянні старшыні Баранавіцкай-Заходняй выбарчай акругі № 21 Ларысы Антонавай, якая зрабіла ўсё, каб не дапусціць мой выступ на баранавіцкім радыё. Аднак суддзя Жанна Капачэўская адмовілася разглядаць маю скаргу на дзеянні старшыні выбарчай камісіі ў сувязі з яе непадлегласцю суду. Таму я звярнуўся ў Брэсцкі абласны суд




і буду яго прасіць прыцягнуць да адказнасці былую старшыню камісіі Баранавіцкай-Заходняй выбарчай акругі № 21 Ларысу Антонаву за парушэнне выбарчага заканадаўства, – пракаментаваў Мікалай Чарнавус.

Праваабаронцы за свабодныя выбары

## У Баранавічах рабочых з Бангладэш падманулі



Баранавіцкае вытворчае баваўнянае прадпрыемства,

Стала вядома, што рабочыя з Бангладэш, якія папрацавалі ў якасці ткачоў усяго некалькі месяцаў на Баранавіцкім вытворчым баваўняным прадпрыемстве, пакідаюць "сінявокую" і з'язджаюць на радзіму. Маладыя ткачы з Бангладэш не задаволены не толькі сваімі вельмі нізкімі заробкамі, але і тым, што ўмовы кантракту моцна парушаны. Яны сцвярджаюць, што ім абяцалі заробак каля 1000 $, а калі прыехалі на мясцовае баваўнянае прадпрыемства, то рабочым паведамілі, што атрымаюць за месяц толькі 500 $. Праз месяц высветлілася, што ткачы з Бангладэш атрымалі на рукі ўсяго 100 $.

Маладыя імігранты звярнуліся ў гарадскую міліцыю, але там параілі вырашаць эканамічныя праблемы з адміністрацыяй завода. Але трапіць да завадскога начальства аказалася немагчымай справай, тым больш, па словах маладых рабочых, што ў іх адабралі пашпарты. Таму ткачы з Бангладэш распавялі аб сваіх праблемах карэспандэнту недзяржаўнай газеты "Intex-press".

Аднак пасля сустрэчы з мясцовымі журналістамі ткачам з Бангладэш паведамілі, што ўсе яны неўзабаве вернуцца дадому.

Віктар Сырыца

## Бацька палітвязня Мікалая Статкевіча хвалюецца, што не пабачыць сына



Баранавіцкія актывісты Віктар Сырыца, Сяргей Гоўша, Анжаліка Камбалава, Мікалай Антановіч наведалі Статкевіча Віктара Паўлавіча. За кубачкам гарбаты найперш пагаварылі пра вызваленне Мікалая Аўтуховіча, чыталі лісты і паштоўкі Мікалая Статкевіча з Магілёўскай турмы № 4 і яго ліставанне з прадстаўнікамі дзяржаўных органаў, сябрамі і аднадумцамі. Не маглі не абмеркаваць і становішча вакол Украіны.

– Віктар Паўлавіч апошнім часам адчувае сябе не вельмі добра, скардзіцца на моцныя болі ў галаве і галавакружэнне. Яму ж у студзені споўнілася 87 гадоў. Але найбольш ён перажывае, што можа не ўбачыць свайго сына Мікалая, які адбывае шасцігадовае пакаранне ў Магілёўскай турме № 4 за ўдзел у акцыі пратэсту ў Мінску ў снежні 2010 года. Мы пажадалі Віктару Паўлавічу моцнага здароўя і надзеі, што ўсе беды і выпрабаванні яго мужны сын Мікалай Статкевіч не толькі вытрымае з гонарам, але і паспяхова пераадолее, як гэта ўжо было не раз ў яго жыцці, – паведаміў Віктар Сырыца.

Вітусь Свабодскі

ПРАКУРАТУРА

## НАГЛЯДНАЯ СКАРГА ПА СПРАВЕ МІЛАВІДСКАГА ФЭСТУ НАКІРАВАНА Ў ГЕНЕРАЛЬНУЮ ПРАКУРАТУРУ

Адзін з арганізатараў Мілавідскага фэсту Віктар Сырыца 10 красавіка накіраваў наглядную скаргу Генеральнаму пракурору на рашэнні Баранавіцкага гарадскога суда, Брэсцкага абласнога і Вярхоўнага суда па справе Мілавідскага фэсту. У скарзе адзначаецца, што пастановай суддзі суда Баранавіцкага раёна і г.Баранавічы ад 31 ліпеня 2013г. ён быў прызнаны вінаватым у здзяйсненні правапарушэння, прадугледжанага ч.2 арт. 23.34 Кодэкса РБ аб адміністрацыйных правапарушэннях і прыцягнуты да адказнасці ў выглядзе штрафу ў памеры 20 базавых велічынь. Брэсцкі абласны і Вярхоўны суды, Баранавіцкая міжраённая і абласная пракуратуры палічылі вынесенае рашэнне суда правамоцным, таму В. Сырыца вырашыў звярнуцца асабіста да Генеральнага пракурора.

– Я адзначыў, што ўсе суддзі і пракуроры зусім не прымаюць да ўвагі і ў сваіх рашэннях не згадваюць не толькі мае аргументы, але і заявы 16 сведкаў мерапрыемства. Яны ўпарта спасылаюцца на паказанні маёра Куляшова, які не быў і не бачыў таго, што адбывалася ля Мілавідаў і ў Русіно 2 чэрвеня 2013г. Дадаў, што суды і пракуроры таксама поўнасцю ігнаруюць Акт ад 2 чэрвеня, падпісаны 9 грамадзянамі, а таксама пісьмовыя тлумачэнні Уладзіміра Гундара, Рыгора Макарэвіча, Вячаслава Болбата, Галіны Ярашэвіч, Сяргея Гоўшы, Анжалікі Камбалавай. Усе яны былі ўдзельнікамі вандроўкі на афіцыйнае свята ў Мілавіды 2 чэрвеня і хацелі даць паказанні ў судзе, – пракаментаваў Віктар Сырыца.

Тое, што ў Мілавідах не было мітынгу, сведчыць і пісьмое даручэнне пракурора Баранавіцкаму РАУС, якое суды таксама праігнаравалі. Пракурор абавязаў РАУС правесці дазнанне факта правядзення культурніцкага фэсту 2 чэрвеня не ў Мілавідах, а ў вёсцы Русіны Баранавіцкага раёна. Але замест аб'ектыўнага разгляду Русінаўскага мерапрыемства, РАУС тройчы складаў на Віктара Сырыцу адміністрацыйныя пратаколы за "несанкцыянаваны мітынг" у Мілавідах, якія, дарэчы, гарадскі суд двойчы адпраўляў назад на дапрацоўку.

Віктар Сырыца просіць Генеральнага пракурора праверыць законасць і абгрунтаванасць рашэнняў Баранавіцкага гарадскога, абласнога і Вярхоўнага суда па яго адміністрацыйнай справе і вынесці пратэст у парадку нагляду аб іх адмене.

Глеб Лушынскі

ПРАВЫ ЧАЛАВЕКА

## ПРАДСТАЎНІКІ "ВЯСНЫ" БЯРУЦЬ УДЗЕЛ У МЕРАПРЫЕМСТВАХ ДЛЯ ПРАВААБАРОНЦАЎ У ШВЕЦЫІ

У Стакгольме праходзяць Дні Беларусі, арганізаваныя праваабарончай арганізацыяй Ostgruppen, а таксама другая штогадовая канферэнцыя Дні праваабаронцаў - 2014, арганізаваная Civil Rights Defenders.

Сябры Рады Праваабарончага цэнтру "Вясна" запрошаныя да ўдзелу ў абодвух мерапрыемствах.

Дні Беларусі праваабаронцы Ostgruppen ладзяць з 31 сакавіка па 3 красавіка, за месяц да чэмпіяната свету па хакеі, які будзе праводзіцца ў Мінску. На штогадовую сустрэчу з Беларусі запрошаныя праваабаронцы, незалежныя журналісты, былыя палітвязні і сваякі цяперашніх палітвязняў, прадстаўнікі сучаснай культуры. У праграме мерапрыемства бяруць удзел намеснік старшыні ПЦ "Вясна" Валянцін Стэфановіч і сябра Рады Уладзімір Лабковіч.

Таксама яны разам з калегай Таццянай Рэвяка і Наталляй Пінчук, жонкай палітзняволенага кіраўніка "Вясны" Алеся Бяляцкага, бяруць удзел у другой штогадовай канферэнцыі Дні праваабаронцаў, якую з 1 па 4 красавіка ладзіць арганізацыя Civil Rights Defenders. На ўнікальны форум, прысвечаны ўмацаванню пазіцыяў праваабаронцаў, якія падвяргаюцца рызыцы ў сваёй працы, сабраліся каля 120 праваабаронцаў з самых рэпрэсіўных рэгіёнаў свету. Канферэнцыя з'яўляецца для іх пляцоўкай для абмену вопытам і пашырэння сеткі кантактаў.

Цягам чатырох дзён у рамках гэтай канферэнцыі вядучыя эксперты правядуць трэнінгі і кансультацыі па такіх актуальных тэмах, як інфармацыйная і кампутарная бяспека, відэакампаніі і лабіяванне правоў чалавека. Для наладжвання стасункаў з актывістамі і магчымасці атрымаць больш інфармацыі пра канкрэтныя праблемы ў розных рэгіёнах свету на мерапрыемстве прысутнічаюць вядомыя прадстаўнікі ААН і міжнароднай праваабарончай супольнасці. Сярод іх - Майна Кіаі, спецыяльны дакладчык ААН па пытаннях права на свабоду мірных сходаў і асацыяцый.

Кульмінацыяй канферэнцыі стане прысуджэнне узнагароды года - Абаронца Грамадзянскіх Правоў, якой Civil Rights Defenders адзначае поспехі і дасягненні сваіх мужных калегаў. Цырымонія ўзнагароджання будзе праходзіць 4 красавіка.

spring96.org

"ПРАВААБАРОНЧЫ ВЕСНІК" Баранавіцкі інфармацыйны праваабарончы бюлетэнь

**Калі парушаны вашыя правы, маеце пытанні, заўвагі ці прапановы - звяртайцеся.**
Дапамога бясплатная. Нашы кантакты: тэл. 8 029 7220957, e-mail: viasna_bar@tut.by

Распаўсюджваецца бясплатна. Наклад 299 асобнікаў

веснік ПРАВААБАРОНЧЫ